# працяжнік

восень 2021

СУЦЯШАЛЬНАЕ Ў ДУМКАХ,
СЛОВАХ, ЗДЫМКАХ.
І ПРОСТА Ў МАГЧЫМАСЦІ
НЕШТА ПРЫГОЖАЕ РАБІЦЬ
РАЗАМ

АПАВЯДАННІ, РАЗВАЖАННІ, ВЕРШЫ, ЗДЫМКІ, ГІСТОРЫІ

ПРОСТА ГАРТАЙ, МОЖА ТЫ ЗНОЙДЗЕШ ТУТ
НЕШТА СВАЁ.

ТЭСТАВЫ НУМАР

давайце
проста
паспрабуем



Запальвае святло першага выпуску
Кацярына Іванова

Прывітанне.
Не, прывітанне!
Не ведаю, што атрымаецца ў нас.
Але ведаю дакладна—трэба пачаць.
Аднадумцы, якія пішуць і здымаюць, якія знаходзяць родныя душы ў Фэйсбуку (ці яшчэ дзе), якія хацелі б бачыць усе гэтыя думкі-разважанні-тэксты-фота недзе ў адным месцы,
ЗАПРАШАЮ.

# ШТО МЫ МАЕМ:

*Анжэла. Бай “Пацеркі”* 4

*Таццяна Ломаш і яе кранальны сусвет* 6

*Кастусь Калючы “Кашуля радзімы”* 10

*Таццяна Фралова і яе Гародня* 12

*Аб'ектыўная лірыка Ірыны Грабоўскай* 14

*Кацярына Мяснікава. Апавяданні* 17

*Паліна Шкляр. Фотаздымкі.* 22

*Творы Таццяны Белімавай у перакладзе Міколы Адама* 26

*Слоўнік бабулі* 29

*Павел Зелянко. Разважанні ў дарозе* 30

*Наста Андрэева. Вершы.* 32

*Таццяна Фальба. “Вось такая гісторыя”* 35

*Анонс героя. Іна і той самы вершык* 38

*Міхаіл Лучыцкі. Урывак з р. “Акультаскоп штандартэнфюрэра”* 39

(інтэрактыўны змест абавязкова будзе,
праз колькі дзён гэты «упс» прыбяром, выбачайце)

# Анжэла. Бай

# Пацеркі



У дзяцінстве я прыдумала гульню ў гузікі, я даставала іх наўздагад з бляшанай залацістай скрынкі, дзе раней былі цукеркі, і збірала на шнурок – атрымліваліся пацеркі. Потым я дакучала дарослым пытаннямі, адкуль той ці гэты гузік, мама ў адказ прыдумвала цікавыя гісторыі – вось гэты чырвоны з банцікам знайшла ў краме, відаць, маднявая мадама згубіла, а гэты беленькі з якарам упаў з безказыркі марака, што прыехаў на спатканне да сваёй каханкі. Зараз я разумею, што збірала тады не пацеркі, а гісторыі.

Цяпер я дарослая цёця, але пацеркі зноў нанізваю, толькі замест гузікаў - простыя моманты, такія як ісці басанож па раснай траве, збіраць у полі рамонкі, сядзець ля вясковай дарогі, смакуючы ледзянец на палачцы, пайсці ў лес па чабор для духмянай гарбаты, заўважыць вясёлку ў струменьчыках калодзежнай вады, везці на ровары вялікі ахапак духмянага, горкага палыну. Гэтыя імгненні ціхага шчасця, якія вучаць не спяшацца, а назіраць, звяртаць увагу на маленькія радасці кожнага дня, я і запасаю, толькі замест нітачкі-шнурка - старонка ў інстаграме, мая памяць і хуткія фотаздымкі.

Неяк знянацку я падумала, што ўсё тое, што дарыць мне хвіліны захаплення, адбываецца ў вёсцы, каб гэта памножыць, летам я прыдумала для сябе маленькія падарожжы на лісапедзе (менавіта так называла мая бабуля ровар) па суседніх вёсках. І там я знайшла такое жыццё, якое шукала доўгі час – непаспешлівае, простае, сапраўднае. Вось бабуля ў Зарудзічах спяшаецца да аўтакрамы, цягне сумку на калёсіках, а за ёй рабая Жучка (а можа Трэзор), я гучна вітаюся, яна ківае, і пытаецца:

- Ты адкуль?

- З Міхневіч, - адказваю я.

- Ааа, ну добра! Ці ёсць яблыкі ў вас? – нечакана задае бабулька пытанне.

- Няма ў гэты год.

- Дык я дамо, мая хата другая ад крыжа, вунь, зяленая, трохі пачакай там, бо мне няма куды яблыкі дзяваць, хай ядуць добрыя людзі.

- А можа я нядобрая? – смяюся я.

- Не дуры мне галаву, ідзі да зяленай хаты і чакай.

Так неўзабаве дамоў я вязу вядро салодкіх, жоўта-чырвоных яблыкаў. Дзякуй, незнаёмая бабуля з суседняй вёскі.

Ці маленькі хлопчык з Вётхава, які заўважыў, што я фатаграфірую, і просіць мяне: “Цёця, а зрабі здымак, дзе я смела еду на ровары па вялікай лужыне”. Ён праязджае, абдае мяне пырскамі, абварачваецца і крычыць: “Мяне Рома завуць”.

З малымі ўвогуле шмат цікавага: пытаюся ў дзяцей, якія гуртком сабраліся каля арэлей, што у іх вёсцы паглядзець, што вартае ўвагі. У адказ хлопчык год пяці хутка пачынае расказваць, што яго бацька машыну новую купіў, і яна самая дарагая ў вёсцы, другі малеча спяшаецца паведаць мне пра новы басейн, а яшчэ адзін, старэйшы з кампаніі, смяецца з гэтых славутасцей і кажа, як штогод у іх Пярэбнавічы прылятае пара буслоў, вось іх гняздо - і ёсць мясцовая каштоўнасць. З ім я згаджаюся і іду глядзець на буслоў.

Такімі вандроўкамі я напаўняю сябе вясковасцю, не стамляюся дзівіцца на прыгажосці, якія выхапліваюць мае вочы з буднічага жыцця – ліштву з галубкамі на вокнах жоўтай хаткі, размалеваныя кветкамі слупкі плота, аксаміткі ля брамкі, пашарпаныя паштовыя скрыні, якія, як вераб’і, паселі паміж электрычных слупоў, герань у каструльцы на падаконніку, таблічку на доме з надпісам, што тут жыве ветэран вайны. Здаецца, гэта дробязі, іх лёгка не заўважыць, абмінуць, але я запасаю іх у свае пацеркі, яны будуць грэць мяне, калі я буду сумаваць па вёсцы.

Ёсць у маіх вандроўках і сумна-балючае. Гэта пустыя, кінутыя хаты. Шчэміць сэрца, калі бачу іх заняпад: чорныя вачніцы, прасеўшы дах, разбураныя коміны. Праз разрослы бур'ян яны глядзяць нямым дакорам. Зусім нядаўна тут панавала жыццё, калі закрыць вочы, можна ўбачыць, як тут гаманілі дзеці, гаспадар пакурваў, седзячы на ганку, побач з ім гаспадыня перабірала фасолю… Я спыняю свой сіні лісапед каля паніклага плота старой, адзінокай хаткі, заходжу ў ціхі падворак і, здаецца, хата глыбока ўздыхае, я лаўлю на тэлефон рэшткі былого жыцця – драбіну на сцяне пуні, іржавае вядро каля студні, шэры шпакоўнік на яблыне, падыходжу да дрэва і трасу галіну, маленькія ранеткі шчодра падаюць на зямлю, збіраю яблыкі ў торбу і дзякую ў думках былых гаспадароў. Гэта імгненне я таксама заберу для пацерак - спатрэбіцца. Адзін мой падпісчык сказаў, што мае разважанні добрыя толькі для інстаграму, бо пустыя хаты – гэта толькі пацукі і павуцінне. Не, я дакладна ведаю, што ў вясковых хат ёсць душа, ну а павучкам таксама патрэбен прытулак.

Яшчэ ў пацеркі люблю ўплесці гісторыі з дзяцінства, бо ўспаміны адтуль – гэта краіна цудаў і магчымасць паразмаўляць, пасмяяцца з роднымі людзьмі: "Зноў гэты Пятро, чаму так гучна!" – злуюся я на нашага пеўня і адкрываю вочы. Летняя раніца, мне 10 год, і я ў вёсцы. Каля майго ложка стаіць міса клубніц, добра так ссыпаная цукрам. Ля печы пагрымлівае патэльнямі бабуля. "Бліны" - утягваю носам я жаркі пах."Не ляжы на пячы, рабі калачы, - заве бабуля, - уставай, мая люба, паснедаеш сама, я на буракі, пакуль сонца невысока. І кату дасі, хай яго, такі ўжо шкода".. Я хапаю гарачы тоўсты блін і, басая, у сарочцы, выскокваю на ганак..Лета.."

Што яшчэ цікава перабіраць, разглядаць, разважаць?! Вядома, гэта звязана з чытаннем. Выбраць кнігу з бясконцай чаргі, пражыць з героямі гісторыю, а потым паразважаць, запісаць у свой чытацкі дзённік – тут жа, на сваёй старонцы. Неўзабаве заўважыць, што на беларускай палічцы стаіць не так шмат кніг, адчуць ад гэтага пустоту знутры і зразумець, у якім кірунку звярнуць у кнігарне, каб запоўніць сябе сваім. "Хам" Э.Ажэшкі, "Шлюбная ноч" І.Шамякіна, "Родныя дзеці" Н.Гілевіча, "Абеліск" В.Быкава і іншыя– чым не ружанец?

Вось такія пацеркі ў мяне атрымліваюцца, кожны "гузік" са сваёй гісторыяй, як у дзяцінстве, хай іх будзе больш і больш. Бо галоўнае, не прайсці міма свайго жыцця.

Гэта прыгажуня-бландынка нясе свет у
беларускі Інстаграм. Як мінімум.
Беларусь. Кнігі. Думкі. Успаміны.
Так напісана ў яе ў профілі. Шукайце і
далучайцеся – ён светлы і сапраўдны .
Там шмат таго, па чым сумуе кожны другі
беларус.
Калі не кожны першы.
Так, здаецца добры пачатак у нас?
Простыя словы, простыя рэчы –
класіка гарантуе, як кажуць.
Дзякуй, Анжэла,
не спыняйся!








ТАТЬЯНА ЛОМАШ КОГДА-ТО БЫЛА ПЕРВОЙ БЕЛОРУСКОЙ НА МЕЖДУНАРОДНОЙ ВЫСТАВКЕ «МОДНА ЛЯЛЬКА» В КИЕВЕ. А ЕЩЕ ОНА ВЯЖЕТ УМИЛИТЕЛЬНЫЕ ВЕЩИ, ШЬЕТ НАРЯДЫ И ДАЖЕ СНИМАЕТ СОЦИАЛЬНЫЕ МУЛЬТИКИ В ТЕХНИКЕ STOP-MOTION. СЕЙЧАС ТАТЬЯНА УВЛЕКАЕТСЯ ВЕКТОРНОЙ ГРАФИКОЙ.
МЫ НЕМНОГО ПОГОВОРИЛИ С ТАТЬЯНОЙ, ПОТОМУ ЧТО ЕЕ УВЛЕЧЕНИЯ ВПОЛНЕ МОГУТ ВДОХНОВИТЬ КОГО-ТО ИЗ ЧИТАТЕЛЕЙ НА СОБСТВЕННОЕ ТВОРЧЕСТВО.

**Расскажи, как называется то, чем ты сейчас увлекаешься?**

- Это векторная графика (иллюстрация). Мне действительно нравится учиться новому и пробовать свои силы в разных направлениях. Это был вызов себе самой. Удивительно, что иллюстрации можно создавать с помощью лишь ноутбука и мышки. Смогу ли я этому научиться? Вот, учусь.

**А что для этого нужно? Какие-то курсы? Может быть, художественное образование?**

- Да нет, было бы желание. Каких-то специальных знаний не требуется. Конечно, со временем узнаешь нюансы и «фишки», значительно ускоряющие и облегчающие процесс рисования. Можно установить программу «Adobe Illustrator» - новичкам обычно удобнее работать именно в ней. А потом посмотреть видео-уроки или взять бесплатные мини-курсы пример таких, @yousmart_spb в Инстаграм). А дальше только время и терпение, и все получится.

**Для чего ты рисуешь? Кроме собственного удовольствия, конечно.**

- Мне нравится, когда люди улыбаются. Потому стремлюсь делать свои рисунки милыми и добрыми. Чтобы человек, глядя на них, хотя бы недолго отвлекался от повседневных забот. Вот и все.

**А монетизировать это можно?**

- Можно, есть много путей. Открытки, стикеры, печать на футболках, текстиле, посуде. А еще работа с издательствами, принтшопы, стоки и прочее. Каждый путь надо изучить тщательно и выбирать подходящий для себя. Но я пока в этом направлении только начинаю, потому монетизация еще впереди.

**Ты работаешь в школе, наверняка, ученики знают о твоих увлечениях. Или работа отдельно, творчество отдельно?**

- Мы действительно с ребятами часто говорим о творчестве, в том числе, об их увлечениях. И они в ответ спрашивают меня о моих. Тогда я показываю фото своих работ, и они, вдохновленные, тут же начинают что-то мастерить и рисовать. И получается у них великолепно. Современные дети очень живые, любопытные, талантливые!

Расспрашиваю всегда их об увлечениях. И они в ответ спрашивают меня о моих. Тогда я показывают фото своих работ, и они, вдохновленные, тут же начинают что-то мастерить и рисовать.

**А что уже за спиной у тебя, творческого? Расскажи, чем ты так успешно занималась до иллюстрации.**



- Да с самого детства, если честно, я всегда чем-то занималась. Вязание, шитье, танцы, модельная школа. И музыка, конечно (*у Татьяны диплом учителя музыки и МХК – прим. авт.)* Но самое интересное началось с появлением интернета в моей жизни. Именно там я увидела кукол Tilda. С них все и началось.
Со временем мне захотелось создавать кукол по своим выкройкам. Училась методом проб и ошибок. Так появился проект Sofibaby. С ним я и стала первой участницей из Беларуси на крупной международной выставке творчества и рукоделия «Модна лялька-2012» в Киеве. Затем были и другие успешные выставки, например, «Hello, Teddy» в Москве и т.д.




**И с этими талантливыми детьми вы еще и выиграли областной конкурс исследовательских работ. Насколько я знаю, там была какая-то социальная тема…**

- Да, чтобы подковать свои технические навыки (а художественное творчество требует освоения и смежных сфер), я с ребятами-третьеклашками попробовала создать видео в технике stop-motion. И оно было посвящено проблеме сбора мусора.
Чтобы создавать нечто интересное, не обязательно жить в большом городе, иметь крутую технику и т.д. Тем более не нужно думать, что дети в школе занимаются чем-то скучным из серии «вчерашний день». У нас много современных и интересных идей. А дети сейчас быстро отзываются на все «авантюры» педагога.



**Ты, знаю, хочешь сделать творческие проект (стикеры) про Полоцк. А расскажи, какой он, твой Полоцк?**

*- Мой Полоцк тихий и уютный. Пронизанный духом истории, окутанный легендами и тайнами. Красивый и величественный.*
*Это мой дом.*
*Место, куда хочется возвращаться.*

# Из блога Татьяны. Прекрасное.

## Платье к 8 марта

О дате утренника, посвященного 8-му марта, я узнала во вторник вечером, за день до самого мероприятия. Мы конечно же первым делом в шкаф, примерять наряды. Но оказалось, что Сонечка за зиму из всего нарядного выросла. Надо было срочно спасать положение. И тут вспоминаю, что у меня есть чудо-журнал, в котором выкройки детских замечательных, очень красивых (а главное простых в исполнении) платьев. И кусочек ткани, который дааавно был куплен именно для этих целей.

В среду деть была отправлена в сад, а я принялась за работу. В общей сложности (не считая перерывов на убратьпомытьприготовить и прочие) на пошив ушло 6 часов. И уже в четверг моя принцесса блистала на садовском "балу"))











# Работы Татьяны Ломаш








tatianalomash • Подписки

tatianalomash "Ателье" продолжает свою работу😊👗
Все так же неспешно. За чашечкой ароматного чая☕
.
.
#платье
#мамашьет
#ананасики
#fiveoclock
#portmeirion
#tea

125 нед.

minsk_desing_nail 👍👍😊

124 нед. Нравится: 1 Ответить



tatianalomash • Подписки ...

tatianalomash Снова о любви🖤
Люблю цветы и ничего не могу с этим поделать. Близкие об этом знают. Поэтому радуют. По поводу и без.
И природа радует. Прямо под балконом снова раскинулось море незабудок. Расцвели тюльпаны. И прямо в окно стучит ветвями яблоня и красуется. Мол, посмотри, какая я сегодня нарядная.
Спасибо за радость и любовь
🌱🖤🌸🌷😊
.
.
#весна
#цветочки
#незабудка
#любовь
#радость
#счастьерядом
#счастьевнутринас
#spring
#flowers
#love
#happy





КАСТУСЬ КАЛЮЧЫ

# КАШУЛЯ РАДЗІМЫ

Стары я ўжо стаў для палётаў. Баюся. Раней радаваўся, калі выпадала месца ля ілюмінатара. Сядзеў і спакойна глядзеў на свет вачыма птушак. А калі самалёт рабіў манеўры, каб легчы на курс (тыя, калі ў адно акенца ты бачыш зямлю пад вуглом амаль сорак пять градусаў, а ў супрацьлеглым акенцы – толькі неба), тады цела працінялі дрыжыкі захаплення і хацелася крычаць "Ё-о-о-хо-оў!". Ніякая турбулентнасць не бянтэжыла.

Цяпер усё іначай. Некалькі разоў падчас палёту – асабліва на ўзлёце – выціраю далоні, на якіх па-здрадніцку зіхацяць і адбіваюць сонечныя промні драбнюткія кропелькі поту. Нават рамень бяспекі адшпільваю толькі тады, калі хочацца па малой патрэбе.

- Тата, у нас усё добра? – пытаецца дачка, адчуваючы лёгкія хістанні самалёта.

- Так, сонейка, - усміхаюся ёй. – Гэта нармальна.

Не ўпэўнены, што ў маім цяперашнім эмацыянальным стане мой голас можа кагосьці заспакоіць, але дачка, задаволеная маім адказам, працягвае свой занятак – у кніжцы-размалёўцы лялькі атрымоўваюць каляровае жыццё. Дзяўчынка спакойная болей за мяне. Абыходзімся без асаблівых супакойванняў.

Па другі бок ад мяне сядзіць, уціснуўшыся ў крэсла, яшчэ адна мая "дзяўчынка" – жонка. Яна пытанняў не задае, але я бачу, што ёй сапраўды страшна. Не дапамагла нават бутэлечка віскі з duty-free. Я таксама звычайна прымаю "дозу", але толькі калі лётаю без сям'і. А зараз хачу мець трэзвую галаву – на ўсялякі выпадак.

Голас сцюардэсы анансуе напоі і пачастунак праз пятнаццаць хвілін. На кароткіх рэйсах гэта заўсёды сімвалічная ежа – хлеб з сырам ці булка – але усё роўна прыемны рытуал, бо дапамагае крыху забіць час і перавесці позірк з безаблічных аблокаў на штосьці зямное.

Гарбата з лімонам прыемна грэе страўнік. Але мюслі не лезуць. Праз хваляванне ці праз стомленасць. А можа праз чаканне хат-няй роднай ежы. Так, вяртанне дадому - прыемны момант, што казыча тваю душу, бы маці сваё дзіцятка. І ты ледзь стрымліваеш усмешку, прычына якой вядомая толькі табе. Бо астатнія хутчэй за ўсё думаюць, што гэта вынік гастранамічнай задаволенасці.

Мая першая дарослая вандроўка за мяжу надарылася ў студэнцкія гады. Тады яшчэ не паспелі забараніць праграмы кшталту work & travel. І маладыя людзі з ахвотай наведвалі цывілізацыю ў спробе калі не дасягнуць, дык дакрануцца да сапраўднай свабоды. Ну і калі атрымаецца – крыху зарабіць. Вядома, гэта свабода зацягвала і шмат хто не вярнуўся, аддаючы перавагу адчуванню настальгіі па радзіме за мяжой перад цяжкой рэчаіснасцю самой радзімы. "Навошта ты вярнуўся?" – шмат хто пытаў мяне, шчыра не разумеючы, як можна было спляжыць шанец застацца ў ЗША. Самы дакладны адказ "Я люблю сваю Радзіму" быў задужа пафасным і хутчэй за ўсё яму б не далі веры, таму часцей за ўсё я казаў нешта няўцямнае.

Потым была Вялікабрытанія. Пасля Туманнага Альбіёна я выразна адчуў, што належу да тых, хто не можа доўга трываць на чужыне. Дом цягне. Тут нам жыць і канаць - пісаў беларускі класік. Гэта дар і праклятце адначасова. Як боль кахання.

- Наш самалёт рыхтуецца да зніжэння, просім зашпіліць рамяні бяспекі…

Праз некаторы час аблокі застаюцца недзе ўверсе і можна праз вакно глядзець на лапікі лясоў, нітачкі рэк і маленькія вёскі. Нарэшце. Прызямляцца не так страшна, як узлятаць. Мая жонка кажа, што большасць аварый адбываецца як на ўзлёце, так і падчас пасадкі. Але мяне "адпусціла" і я, беручы яе пальчыкі ў сваю далонь, кажу ціха і ласкава: "Усё будзе добра. Я цябе кахаю…". Дачка прыліпла да ілюмінатара, і я некалькі разоў

прашу яе, каб села роўненька, пакуль не апынемся на зямлі.

Салон напаўняецца гучнымі апладысментамі. Заўсёды думаў, што гэта не даніна майстэрству пілотаў, а хутчэй імпульсіўная экспрэсія радаснага ўсведамлення таго, што ты жывы і табе нічога (нібыта) ужо не пагражае.
Сентыментальнасць моманту нараджае вострае жаданне сысці з трапу і, укленчыўшы, пацалаваць родную зямельку. Але я так ніколі не рабіў – ніхто не зразумеў бы. Ды і родная зямелька закавана тут у асфальт – не яго ж цалаваць. Таму абыходжуся ўяўленнем, што я кранаюся зялёнай беларускай травы, і мы кіруем ў вантробы менскага аэрапорту.
Падчас пашпартнага кантролю мой мабільны абуджаецца. Мама. Здаецца, яна заўсёды першая, хто тэлефануе мне ў гэтых выпадках. Радасна, хачу ёй паведаміць, як даляцелі і што з намі ўсё ў парадку…

- Разговоры заканчиваем! – далятае голас са шкляной кабінкі, у якім строгая кабета скануе нашы пашпарты.

Паслухмяна хаваю тэлефон у кішэню і ўтаропліваюся ў работніцу пагранічнай службы. Яна нават не глядзіць на нас, занятая сваімі абавязкамі. Радзіма не сустракае цябе ні ўсмешкай, ні ветлівымі словамі. Так заўсёды. Нічога не змянілася. Але штосьці падаецца не такім. Спачатку не разумею што. Але потым заўважаю: раней памежнікі былі ў кашулях іншага колеру – брудна-зялёнага. Да якога пасуе аўтамат Калашнікава. Але гэтым разам (цікава, часова ці назаўжды?) усіх пераапранулі ў беласнежныя кашулі. Гэта форма ўжо не будзе пужаць замежнікаў прывідам мілітарызма. Маленькі крок у бок да лепшага…

- Тата, а ты купіш мне шакаладны пончык на 101-ым кіламетры? – малая не пытаецца, яна ветліва нагадвае пра ейны асабісты рытуал вяртання, што не мусіць быць праігнараваны. Станоўча ківаю, і яна прытульваецца да сваёй матулі на заднім сядзенні. Аўто спакойна коціцца на поўнач. І мае дзяўчынкі, стомленныя падарожжам, абедзве спакваля засынаюць.



Здымак @Wattpad



КАСТУСЬ КАЛЮЧЫ - ПСЕЎДАНІМ.
ГЭТЫ ЧАЛАВЕК ТАКСАМА З ТЫХ,
КАГО Ў АДНОЙ САЦСЕТЦЫ
НАЗЫВАЮЦЬ "ФРЭНДАМІ".
А ЯШЧЭ ЁН
ВЫСОКАКАНЦЭНТРАВАНЫ
ПАЛАЧАНІН.
ВОСЬ І ДУМАЙЦЕ ЦЯПЕР,
ХТО ГЭТА.

А Я ШЧЫРА ДЗЯКУЮ ЗА ДАВЕР.

Фролова
и ее Гродно



# Монолог полочанки, которая уехала в большой город (и ее же фото)



Город - это не просто улицы, дома и люди. Когда мы путешествуем, осознанно или неосознанно, ощущаем на сколько различная атмосфера царит в тех или иных городах. Одни города нам по душе, другие нам абсолютно безразличны, а в третьи мы не поедем ни под каким предлогом.

*Город для меня сравним со спутником жизни, который наблюдает за нами, сопровождает, поддерживает и наполняет нас.* И сейчас я хочу поделиться своей историей выбора города... Города, который стал для меня партнёром, тренером, учителем и другом. Гродно — один из древнейших городов Беларуси, но по-моему, это не ощущается. Да в нём чувствуется мудрость, стать и величие, но он молод душой, готов к экспериментам, новизне и к новым знакомствам.





Гродно очень уютен и гостеприимен. Маленькие улочки и закоулочки, хранящие за поворотами архитектурные сокровища, на подобие уютного пледа, укутывают и согревают сердце. Разнообразные кофейни: с пенкой на капучино, с выпечкой «ручной работы» и с живыми цветами на столиках; различные кухни: японская, грузинская, индийская, итальянская; компактные магазинчики вдоль пешеходной улочки вымощенной брусчаткой; и конечно же люди... такие красивые и волшебные... Это всё западает в душу и остаётся там навеки.



остаётся там навеки. Этот город живой, общительный и светлый. И освещён он любовью людей, живущих здесь. На самом деле не просто передать те ощущения, которые испытываешь взаимодействуя с городом и конечно же я советую вам испытать это самим в реальности. Приезжайте в Гродно и поговорите с ним: понаблюдайте за его ритмом, послушайте его звуки, может даже задайте вопрос, который вас беспокоит и вслушайтесь...





tatiana_frolova_tf • Подписки





tatiana_frolova_tf Счастье везде и всюду... В лесной прогулке с близким другом... В стуке дятла, где-то там у макушки дерева... В шуме прохладного родника... В пламени домашней свечи... Во мне...

90 нед.

В любом месте Татьяна предпочитает находить общий язык с природой. Потому в ее доме поселились кошка и собака, до того бездомные и почти безнадежные в смысле обретения хозяев.
Таня увлекается духовными практиками, арт-терапией и, как признается, подзаряжется от этого поиска.





## Три места,
## куда обязательно нужно пойти в Гродно

**Первое**
Советская площадь (с продолжением прогулки по улице Советской, которая является пешеходной).
**Второе**
Кафе «Дранікі» на улице Ожешко, там невероятные драники, ну правда. А еще они делают очень вкусное мороженое. По соседству будет кафе «Coffee Sound» с предсказаниями.
**Третье**
Румлевский парк. Просто приходите сюда, здесь хорошо.

Но это только то, куда пойти нужно сразу! Город красивый, старинный, наполненный тайнами и историческими загадками.
Так что считайте, я просто подсказала места, куда можно пойти вначале.
Именно всей семьей.



## Что есть в Гродно,
## чего нет в Полоцке?

Активного молодежного ритма, это точно. Большой и шумный город, в нем чувствуется бег жизни.

## Что есть в Полоцке,
## чего нет в Гродно?

Первое, что пришло на ум—органа и концертов Ксении Погорелой. Именно органа как музыкального инструмента, не привязанного к религиозному контексту.

А еще в Гродно нет Двины, энергетически очень мощной реки. Но зато в Гродно есть Неман и есть теплоход.

Словом, то, что в Полоцке кажется нам привычным, вечным, обыденным, оказывается тем, по чему действительно скучаешь.

*Но сегодня, наверное, я состою из двух городов.*



"Мудрасць сівую мінулых вякоў,
П'ю з народных, чыстых
крыніцаў,
Паважаю чужых багоў,
Ды прывыкла сваім маліцца"

Ларыса Геніюш

Кацярына Мяснікава



Апавяданні

## Ён вырашыў вярнуцца…

Сюды, дзе можна прайсціся басанож па беразе, спаць пад яблыняй і марыць, марыць, марыць. Акінуў вокам краіну, у якой нічога не змянілася за стагоддзі яе існавання, і зноў спакуслівая думка: басанож, па траве, адчуць пахі гэтай зямлі… Дык штож, хіба ен ніколі не шкадаваў, што пакінуў гэты свет так хутка… Спускацца з нябесаў на зямлю - няпростая справа: шлях далекі, анелы ля скроняў пальцамі круцяць, маўляюць, зусім з глузду з’ехаў, да яшчэ сойм прычапіўся - дурны прымер падаеш. У такіх думках патрапіш невядома куды. Замест спакойнага, крыху самотнага настрою, - нервовы стан і няемкае пачуцце несвабоды. Ад таго і злавіўшы нагой нейкую яміну, апынуўся ен на зямлі задужа хутка і ня ў тым месцы. Але тут яму пашчасціла, бо трава і вада, яны, здаецца, паўсюль аднолькавыя, сонца свеціць: раніішнік на двары і травень валадарыць над зямлею. Эх, ліпень, ліпень, да цябе я спяшаўся, ат, кажуць, не спяшайся, бо паспееш. Вось і паспеў ен на свята абуджэння прыроды. А калі яшчэ атрымаецца сабе вакацыі выправіць…

Ранішнік распачаў добры дзень і ўжо птушкі пачалі сваю веснавую песню. Паўсюль раскінулася зямля, якая невыразна, немагчыма чакала дзеяння, расла і расчынялася насустрач небу, з якога выглядала вялізарнае залатое вока. Заплескатала рака, і ен вярнуўся, нібы ніколі не зыходзіў, нібы не было амаль што дзвух тысячагоддзяў блукання па-над светам і пошукаў рэчаіснасці. Разуты, ен падышоў да вады, і адчуў яе халадэчу, і назваў яе Жывою. Акунуўся і паплыў, шырока заграбаючы рукамі, ствараючы мільены празрыстых брызг;  побач плылі маленькія рыбкі. "Усе будзе добра,- паабяцаў ен рыбкам, рэчцы, небу, -Усе будзе як трэба".

Яго сустрэў бераг мяккім пясочкам, маладой спакуслівай травой, магутнымі дрэвамі. У ім прачнулася адчуванне, што некалі ен вельмі любіў гэты край, што гэтыя мясціны апекваліся ім і мелі ад яго вялікую ласку. Але колькі год прайшло, як ен забыуся на гэтую зямлю і чаму? Што прымусіла яго выкрэсліць з уласнай памяці гэты кавалачак раю на зямлі? Нічога не адгукнулася ў адказ.

Яшчэ гадзіну пасядзеў ен каля рэчкі і, развітаўшыся пайшоў у глыб лесу. Цішыня апанавала лес. Здавалася, зараз, зараз прачнецца усе жывое і зацерушыцца мох, скалыхнецца трава… Цішыня панавала ў лесе, валадарыла ў ім. І тады мовіў ен: Жывы лес… Зашапацела лісце, зварухнулася і нехта павольна прайшоў побач. Чаму, чаму,- білася ў галаве пытанне і не знаходзіла адказу. Нешта драпнула па назе. Ен угледзіў у траве наскрозь іржавы кавалак жалеззя з некімі словамі і скруткі дроту. Нашто пісаць на такім непрыдатным для пісьма матэрыяле, падумалася яму, хто будзе гэта чытаць. Хіба што захаваецца надпіс на даўгі тэрмін… Нахіліўшыся і амаль страчваючы прытомнасць ад веснавых пахаў абуджанай да жыцця зямлі, ен прачытаў словы, якія адбіліся глухім болем у сэрцы: "Асцярожна! Радыяцыя".

# Карфаген

Этот мир бесконечен.
Этот мир всеобъемлющ.
Этот мир однажды был создан тобой.
Ты идешь...
***

Бабочка билась о стекло. Яростно стремилась пробиться сквозь незримую преграду к притягивающему ее свету, подчинялась инстинкту, влекущему к неминуемой гибели. За окном сгущались сумерки – окрашивая небо за домами ультрамарином, сохраняя четкие силуэты строений. Декорации мира. Казалось – если зайти за фасад, то очутишься на краю плоской земли. Земли, шарообразность которой доказана, однако воспринимается на веру лишь по привычке. Отсюда все казалось плоским, халтурно намалеванным неумелым художником на кривых перекошенных холстах. Вот оранжевые точки разбавили силуэты домов, - осветители решили выйти на работу и все же включили софиты подсветки, а на небо выкатили желтый шар.
- Это Луна, - тихо сказал кто-то за спиной, - Посмотри, правда она напоминает сыр?
- Правда, - ответил ты.
Бабочка устала или все же совладала с инстинктом – стук прекратился. Теперь ничего не нарушало тишины, кроме шуршащей иглы проигрывателя по давно отзвучавшей пластинке.
- Надо починить механизм, - мелькнула в голове мысль. - Жаль иглу, сейчас новые не достать, а покупать ради двух десятков пластинок новый проигрыватель по баснословной цене - глупо.
Тем временем метаморфозы продолжались - бутылка вина на столе вдруг наполнилась темно-рубиновым свечением, а бокал в руке неожиданно потяжелел и изменил форму - теперь в твоих руках чаша. Окно вытянулось до пола, следом растянулись шторы, превратившись в роскошные, расшитые золотом драпировки. Теперь ты мог созерцать город лежащим у ног. Город ждал, жаждал твоих слов.
- Карфаген должен быть разрушен, - шепчешь ты в ночь. И по небу бежит первая трещина.
Ты устал от этого сумеречного мира, где каждое утро начинается с того, что заходит солнце. Где Тишина превыше всех звуков, и в ее вязкости тонут даже звуки джаза, на мгновение прорывающие всеокутывающую пелену. Но в эти редкие мгновения сквозь прорехи сверкают звезды.
- Карфаген должен быть разрушен, - проговариваешь ты громче.
И с твоих плеч падает белая мантия с красным подбоем, и слышатся в отдалении то ли шум толпы, то ли рокот моря.
- Правда, похоже на море? - шепчет за спиной тот же голос. - Там, за домами, - представь - Море...
И вот уже небо прорезают белые стрелы чаек, беззвучных и суетливых.
- Нет, - отвечаешь ты. - Не похоже.
И по небу пробегает вторая трещина.
Ты распахиваешь окно.
- Карфаген должен быть разрушен! - кричишь ты городу. И город рушится, декорации беззвучно осыпаются, превращаясь в колоду карт, усыпавшую игральное поле. А следом с хрустальным звоном обрушивается небо, заставляя отшатнуться и закрыть руками глаза.
Все залито звездным светом, на земле блестят хрустальные капли оплавленного купола. Где-то за горизонтом появляется едва заметное зарево восходящего солнца.

Ты шагаешь в окно, не оглядываясь, покидая место многолетнего заточения, оставив за спиной стул с высокой спинкой, белую мантию и стеллажи, уставленные древними манускриптами. Они послужили своей цели и нуждаются в отдыхе. А тебя ждёт новый мир, в котором больше нет хрустального свода, шипения проигранных пластинок и вечных сумерек, так долго удерживавших тебя в плену.

Carthago delenda est…

# Сказка о камнях

Жили-были, точнее, лежали себе полеживали, три камня. И были они все три совершенно разными. Первый – большим, серым, угловатым, с неровными гранями и сколами, возвышался темной горой над своими товарищами. Второй – округлым, поросшим мхом, слегка приплюснутым сверху. Одна его половина всегда была в тени большого серого камня, а вторая – грелась в лучах солнца, и поэтому ей перепадало вдвое больше дождя и града.
Третий камень был самым мелким. Он сверкал на солнышке гладким, отполированным дождями боком, посверкивая яркими вкраплениями. Он же был самым говорливым из всей троицы.
– Смотрите,– говаривал он,– какой я нарядный, до чего я красив и хорош. Однажды придут настоящие ценители и заберут меня в большое здание с красивыми колоннами из, подумать только, заморского мрамора! У меня там будут такие соседи – не чета вам! –хвастался он, ревностно поглядывая по сторонам, – не идет ли его ценитель.
В такие минуты большой серый камень молчал и лишь изредка вздыхал, когда хвастовство малыша превосходило все мыслимые пределы. А замшелый валун недовольно фыркал и вступал в очередной бесполезный спор, урезонивая радужный камешек, доказывая, что на берегу тысячи таких, как он, и рассчитывать на то, что именно он будет замечен, – глупо. Скорее уж, заметят их двоих, – ведь, благодаря размерам, оба камня довлеют над всем пляжем, облюбованным с незапамятных времен. Малыш замыкался и ненадолго обиженно умолкал.
В таких беседах протекали однообразные будни. Пока однажды на пляж не пришли люди.

Они забрали с собой два больших камня, а маленький камешек прихватил сынишка одного из рабочих и закинул в кузов к остальным камням, предварительно завернув его в тряпицу.

– Вот видите,– вещал довольный камешек, – Вас погрузили как хлам, меня же завернули и бережно уложили в кузов. Я ведь говорил, что однажды меня заметят и оценят по достоинству!

Камни молчали. Они вообще были не очень-то разговорчивы.

Через некоторое время их выгрузили во дворе, где ждали своего часа сотни, если не тысячи таких же камней. Мальчишка аккуратно очистил от грязи свою находку и, полюбовавшись игрой света на его боках, положил в карман.

Во двор пришли рабочие и принялись сортировать камни по форме, размеру и структуре. И случилось так, что старых друзей распределили по разным кучам. Замшелого снова погрузили на машину, он едва успел попрощаться со своим товарищем перед тем, как за машиной захлопнулись ворота. Серый остался во дворе, – его вскоре приметили и понесли в здание. Там к нему подошел кряжистый седовласый мужчина, одобрительно похлопал камень по боку и прогудел:

– Чудный экземпляр, он именно то, что нужно, следует только немного обтесать этого богатыря и немного сгладить углы.

В бока серого камня вонзились зубила, сбивающие выступы, потом его долго терли и шлифовали. Стоял невообразимый грохот, в какой-то момент камню показалось, что он рассыпается в пыль, не в силах удерживать внутренние связи, и уже почти смирился, но тут его ополоснули водой и вынесли на солнце.

Ну вот, – прогудел снова знакомый голос каменщика, и камня коснулась шершавая грубая ладонь. – Теперь все идеально, и я смогу завершить свою работу.

***

Очутившись в кузове грузовика, продолговатый камень гадал, куда его везут, и что станется с его приятелями, оставшимися далеко позади. Вскоре машина остановилась, кузов накренился, и камни гулкой волной покатились на землю. Замшелый охнул от неожиданности и заворчал, – почти как старый растрескавшийся камень, который рассыпался в пыль еще в ту пору, когда сам замшелый был совсем юным.

- Старею, – резюмировал он. – Но все же какие-то перемены после стольких лет лежания на одном месте, – подумал он и приготовился ждать.

Тем временем вокруг собрались люди, раскладывали камни ровным слоем, аккуратно прижимали их бока друг к другу, попутно счищая мох и засыпая образовавшиеся зазоры песком. Камню было щекотно, он кряхтел, но ничего не мог поделать: судя по ворчанию, раздававшемуся вокруг, щекотно было всем.

***

Мальчишка с камешком в кармане целый день бегал среди взрослых, наблюдая за их работой, а вечером, придя домой, положил свою находку на столик возле ночника и так и уснул, любуясь переливами света в камне.

Утром камешек снова перекочевал в карман и отправился вместе с мальчишкой и его отцом в гости к серому камню. Тот к их приходу был погружен в машину. Они забрались в кузов следом.

– Меня стесывали, – ответил серый на вопрос камешка. – С меня сбивали самые большие выступы и наросты. Люди придали мне нужную им форму и изменили меня, сломали мою структуру.

– Но ведь это еще ты? – тихо спросил камешек.

– Разумеется, я – это я! Я останусь собой, даже если от меня останется только маленькая песчинка. Более того, скажу тебе: я живу в каждом осколке, упавшем вчера, я чувствую каждую пушинку, падающую на эти осколки. Я сразу и здесь, и там, в каждом из них. И эта связь не закончится никогда. Она может ослабнуть со временем, но не иссякнуть, – сказал старый камень и замолчал.

– Но куда везут тебя? – спросил малыш.

– Я точно не знаю, но люди говорили, что я – именно тот камень, которого недоставало, чтобы укрепить какую-то стену.

– Ха, ты будешь всего лишь простой подпоркой! – воскликнул камешек. – А вот я...

И снова начал хвастаться.

***

Камень выгрузили на большой площади, аккуратно водрузили на тачку и подвезли к стене, где поджидала давно заготовленная ниша: камень вошел туда как влитой. Счастливые люди обнимались, каждый подошел и коснулся камня рукой, даря ему частичку своего тепла и радости.

Камень, бывший когда-то замшелым, видел со своего места, как вмуровывают в стену его старинного приятеля, и тихо радовался тому, что снова они будут находиться недалеко друг от друга, и что он снова будет укрыт тенью, – теперь уже от стены, в которой всегда будет виднеться знакомый серый бок.

Мальчишка и его камешек вернулись домой. Камешек снова ночевал на столике и думал о своих приятелях. Он не очень понимал, что же произошло сегодня, поскольку был занят, в основном, своими переживаниями, но все же он ощутил значительность момента.

***

Шли годы, камни все больше врастали в вобравшую их твердь.

Серый камень по-прежнему был объектом внимания всех, приходивших к стене. Он отвечал людям на каждое прикосновение – теплом и радостью, даря надежду и уверенность, возвращал хорошее сто-

рицей. Подставлял все так же свой бок и камень, который был когда-то замшелым. Вот только, в отличие от серого камня, он ощущал не прикосновения рук, а тяжесть человеческих шагов. Он научился отличать шаг счастливого человека от прохожего, охваченного грустными мыслями, танцующую поступь юной девушки от шаркания старушки. Но каждому ступившему на него камень стремился отдать частичку своей силы, частичку своей веры, становясь при этом все тверже и добрее.

А малыш все так же жил в домике мальчишки, став его счастливым талисманом. Теперь с ним играл уже младший мальчишка, который тоже восхищенно любовался затейливым узором камня. Камешек давно оставил свою привычку хвастаться и все чаще вспоминал своих товарищей, гадая, чем теперь наполнена их жизнь, как они сносят они новые дни жизни.

Однажды младший мальчишка-младший взял камешек с собой на прогулку и, о чудо, они пошли дорогой, ведущей к его друзьям.

И лишь теперь камешек увидел, что серый камень стал частью стены старинного храма, а камень, бывший когда-то замшелым, крепко вмурован в дорогу, ведущую к нему.

Камешек тихо вздохнул.

И промолчал…

## Когда вырастут крылья...

...над тобой встрепенутся

и не устанут сулить

много неба и света,

пытаясь их спрятать в тела...

"... не приключится тебе зло, и язва не приблизится к жилищу твоему; ибо Ангелам Своим заповедает о тебе - охранять тебя на всех путях твоих: на руках понесут тебя, да не преткнешься о камень ногою твоею..."

ПСАЛОМ 90

Сначала он почувствовал толчок. Несильный, словно кто-то ладонью подтолкнул вперед. Но через мгновение его буквально швырнуло на колени в центре вечернего города, прямо на каменную мостовую. Раздался громкий треск и сильно, почти нестерпимо, заныла спина. Он обхватил плечи руками и попытался сжаться в комок, заранее понимая всю тщетность нелепой попытки сдержать боль. Затем попытался неуклюже подняться на ноги, оглядываясь по сторонам в поиске случайных свидетелей, но улицы были пустыми. Разогнувшись и все еще ощущая предательскую слабость в ногах, он расправил плечи, и в тот же миг за спиной что-то хлопнуло, мышцы свело судорогой, и его протащило назад на добрый десяток метров. Он еле удержался на ногах. Оглянулся – за спиной мелькнуло что -то белое. Развернулся – и снова напряжение мышц и неуправляемое движение в сторону.

- Крылья, - не поверил он сам себе. - У меня за спиной неведомо откуда появились крылья... Или я просто схожу с ума.

Он завел руки за спину и с нарастающей паникой прикоснулся к плотным остовам, покрытым перьями, выходящим из спины где-то в районе лопаток. И, ошалевая от происходящего, повернул голову, пытаясь как можно подробнее рассмотреть невесть откуда взявшиеся крылья. Они потрясали воображение – белоснежные, покрытые нежными перьями, плотно уложенными одно к другому, мощные и большие. Не в состоянии здраво осмысливать происходящее, он сделал то, что показалось самым разумным в этот момент - попытался взлететь. Его снова потащило в сторону...

Постепенно дело наладилось – он смог подняться на несколько метров над землей и вполне сносно держаться на ногах после приземления. Затем сложил крылья, это получилось само собой – просто решил, что на сегодня хватит; и отправился домой.

Уже дома он спохватился, что так и не проверил, как это смотрится со стороны. Но крылья словно слились с одеждой, ничем не выдавая своего присутствия, и он облегченно вздохнул: не хватало еще обряжаться в плащ в начале осени.

Ночью долго не мог уснуть, а уснув, ощутил падение и, проснувшись, сел на кровати, сбив настольную лампу внезапно распахнувшимися крыльями.

- К чему мне это, - думал он. - Все уже установилось, все налажено. Почему именно сейчас? Почему не в двадцать, когда так грезилось о полетах, почему сейчас?

Дом молчал.

Он долго стоял у окна, вглядываясь в ночь, думая о том, что завтра - снова на работу, а в выходные нагрянут родственники, и надо сделать уборку в квартире. Что чуда с ним так и не случилось, а все мгновения радости просыпались, просеялись сквозь прорехи банальных фраз и отговорок...

- Вот тебе чудо, - услышал он тоненький голосок, идущий откуда-то из глубины души. - Бери.

Он упрямо тряхнул головой. Все. Поздно. Уже нет ни желания, ни сил начинать все заново. А хочется лишь одного - спокойно пройти оставшийся отрезок пути, пройти достойно, без лишних потрясений и дрязг.

***

Занимался рассвет. В комнате всё было устлано белым. Спина болела и сильно кровоточила. Он поднял с пола крылья и завернул в старое одеяло. Выбросить их рука так и не поднялась.

***

Недели бежали за неделями, он все реже вспоминал тот осенний вечер. Спина не болела, полностью избавив его от непрошеных воспоминаний. Все чаще мир укрывался белым, все тише становился ночной город, утопая в снегу, готовясь к долгой спячке.

***

Город украшали к празднику. Детвора носилась во дворе с хлопушками и фейерверками, магазины принимали первые набеги горожан, предвкушающих пиршество. Город бурлил в ожидании.

Он брел домой. Всё чаще его окатывала глухая тоска, хотелось что-то делать, бежать, вырваться из этого безумного одномерного коловращения будней. Вечерами он смотрел в пустоту, перед его внутренним взором возникал сверток, спрятанный в недрах старого шкафа. Но сегодня в голове весь день крутилось "Если я пойду и долиною смертной тени, не убоюсь зла..." – и руки сами потянулись к створкам.

Они все еще были там – прекрасные, не утратившие своего великолепия. Он разрыдался, горечь душила, - вот же оно, то самое чудо, о котором так мечталось долгие годы. Он гладил перья, расправляя каждое, боясь дотронуться до неровных срезов у основания. Слезы высохли, он затих, прикорнув тут же, на ковре, среди разбросанных вещей, смятого покрывала и прекрасных крыльев, сияющих в полумраке комнаты.

***

Утром они исчезли. Его долго пытались разыскать, звонили с работы, допытывались у родных, но все тщетно...

А он шагал по заснеженным улицам, улыбаясь новому году, неся за спиной белоснежные крылья, готовые распахнуться в любой момент и поднять его над городом, в самое сердце метели, к самому началу всего, что только собирается сбыться в грядущем новом году...



**Каця і Юта.**
**На першым плане Юта, бо гэта такая любоў. Дзе ж ёй быць, калі не на першым плане?)**

**Ад быццам бы рэдакцыі.**

У Полацку шмат людзей з, як казалі ў дзяцінстве, "сакрэцікам". У самым лепшым сэнсе. Даводзілася сустракаць тут мясцовых "зорак" з пустэчай унутры, але ж і сціплых людзей з сусветам, які хочацца спазнаць тут хапае. Ці проста паглядзець на яго праз тую оптыку, якая дазволена.
Здаецца, Кацярына Мяснікава—чалавек-сусвет. Мастачка, удзельнік шматлікіх творчых праектаў, каштоўных для нас. Полацкіх "адресатов творческого контента».
А тут яшчэ, глядзіце, ёсць і проза.
Дзіва? Да. Люблю дзівіцца людзям. Гэта натхняе і дапамагае адчуваць падтрымку, якую цяжка асэнсаваць. Людзі, якія робяць полацкае паветра менавіта полацкім.
Вось Каця такая.



ЯНО КРОЧЫЦЬ З ТАБОЮ

ФОТАЗДЫМКІ ПАЛІНЫ ШКЛЯР.
ПРА ХАРАСТВО І ПРА ЗВЫЧАЙНАСЦЬ,
ПРА НАТУРАЛЬНЫЯ ДЭКАРАЦЫІ НАШАГА
ЖЫЦЦЯ.









ВОСЬ ГЭТА ФОТА ПАЛІНЫ ШКЛЯР. ЗНАЙДЗІЦЕ ЯЕ Ў САЦСЕТКАХ. СХАДЗІЦЕ ДА ЯЕ Ў МУЗЕЙ ТКАЦТВА, ЯКІ Ў НАС ЦІ НЕ САМЫ ЎТУЛЬНЫ Ў ГОРАДЗЕ.
ДАРЭЧЫ, ПРА ГОРАДЗЕ. ПАШУКАЙЦЕ ІНТЭРВ'Ю З ПАЛІНАЙ НА НАШЫМ САМЫМ-САМЫМ СВАІМ GOROD214.BY. І ВЫ ЎСЁ ЗРАЗУМЕЕЦЕ.
ПАЛІНА НЕ ПАЛАЧАНКА (ЦІ НЕ ЗУСІМ ПАЛАЧАНКА), АЛЕ ЯНА ЎМЕЕ БАЧЫЦЬ ГОРАД ВАЧЫМА ТАГО, ХТО ЯГО ЗРАЗУМЕЎ.
ЦІ ХОЧА ЗРАЗУМЕЦЬ І АСЭНСАВАЦЬ.
ЧАКАЕМ ПЕРСАНАЛЬНУЮ ФОТАВЫСТАВУ, ПАЛІНА!





**Вось Таццяна Белімава. А вось Мікола Адам. У наш першы нумар Мікола, беларускі паэт, празаік і перакладчык (ну і даўні фэйсбучны сябр, што таксама нешта, да кажа) даслаў пераклад твора Таццяны.**
**З задавальненнем прымаем і чытаем!**

АПАВЯДАННІ

Таццяна Белімава (нарадзілася 11 снежня 1976 года) — украінская пісьменніца, літаратуразнаўца, дацэнт кафедры ўкраінскай і ўсходняй філалогіі ва ўніверсітэце «Украіна». Скончыла філалагічны факультэт Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Т. Шаўчэнкі ды аспірантуру пры ім. Аўтар шматлікіх навуковых прац, падручніка «Проза ўкраінскага мадэрнізму 20-х гг. ХХ ст.», раманаў «Кіеў.ua», «Вольны свет», «Яйцы-Райцы, або Мільён на мару», «Вінаватыя людзі», апавяданняў. Шматразовы лаўрэат міжнароднай літаратурнай прэміі «Каранацыя слова». Жыве ў Кіеве.

(пераклад з украінскай Міколы Адама)

## Хай будзе мір!

Ты малюеш лебедзя на асфальце, а белая крэйда раскрышылася, і ты не ведаеш, як табе яго дамаляваць. Магчыма, бядзе дапаможа твая мама. Яна трымае кардонную скрыначку з крэйдай у руках, прыціхлая на лаўцы побач з дзіцячай пляцоўкай.

Вы прыехалі сюды некалькі дзён таму. Тут ціха. Вельмі ціха. І калі зранку ціўкаюць нябачныя птушачкі санаторнага парку, гэта здзіўляе найбольш. Птушыны шчэбет замест пранізлівага віскату куль…

— Мама, там яшчэ засталася белая крэйда? Мама?! Чаму яна нічога не адказвае? Не чуе? Задумалася? Пагрузілася ва ўспаміны? Вярнулася ў думках туды — у іх закінуты дом у родным мястэчку? Хоць што ты можаш аб гэтым ведаць у свае шэсць гадоў? Ты сам вымаеш з матчыных, быццам здранцвелых, рук скрыначку з крэйдай. Так, белай няма. Засталіся яшчэ ружовая і бірузовая. Ты спрытна дамалёўваеш дзюбку лебедзю ружовай крэйдай і хутка разграфляеш класікі, каб удосталь паскакаць. Тут можна.

Сонца. Яго нібы багата, але вецер ужо не ўпершыню прыносіць цёмныя дажджавыя хмары, і тады стае холадна і няўтульна, даводзіцца сядзець у маленькай двухмеснай палаце на другім паверсе, дзе на суседнім ложку (праз тумбачку) размясцілася цётка Аня са сваёй дачкой Янай, крыху меншай за цябе. А ў цётцы Ані вочы заўжды чырвоныя ад слёз, і ў тваёй мамы таксама.

— Мама, што ты робіш? — Ты глядзіш на маму, вусны якой варушацца. Яна нешта вымаўляе шэптам, зусім нячутна. — Мам? А наш татка хутка прыедзе?

Ад тваіх слоў мама зноў дранцвее. Ты адыходзіш да сваіх малюнкаў на асфальтаванай дарожцы, а яна дастае з кішэні мабільны і правярае ў ім штосьці. Тэлефон... Раней яна давала табе яго пагуляць, паслухаць нейкія простыя мелодыі ці нават радыё праз навушнікі. Але зараз... яна пільнуе гэты тэлефон, быццам найвялікшы скарб, не растаецца з ім цэлы дзень і нават на ноч кладзе пад падушку.

— Мам! Хадзем на канцэрт, га? Глядзі, усе сышлі ўжо месцы займаць. Мам!..

Ты стаіш і енчыш, тузаючы яе за вольную руку, бо ў другой заціснуты той самы праслаўуты тэлефон. Ты матляеш і матляеш яе руку, пакуль, нарэшце, яна глыбока не ўздыхае і не ўстае з лавачкі. Гэта першы яе гук за доўгія гадзіны маўчання, хай нават і такі скупы, але ўпрыгожаны ўсмешкай, што дае падставу весела паскакаць на адной назе ў сталовую. Там ужо ссунулі сталы ўглыб да буфета, а крэслы выставілі роўнымі шэрагамі перад імправізаванай сцэнай — утворанай пад глухой сцяной пляцоўкай, на якой усталявалі мікрафон і вялізазныя калонкі. Ты махаеш маме рукой,

калі яна з’яўляецца ў дзвярах і на ўсялякі выпадак яшчэ й гукаеш:

— Мам! Сюды! Я заняў месца! Я тут!

Паступова ўсе крэслы займаюць такія ж, як і вы, бежанцы — крымчане і землякі-усходнікі, што прыбылі яшчэ ранняй вясной і цяпер запоўнілі ўсе карпусы вялікага па ўсіх мерках санаторыя (у якім няма ніякіх адпачывальнікаў, бо краіна ахоплена вайной). Ты пакуль гэтага не разумееш, вядома, але ўсведамленне прыйдзе абавязкова. Ты проста яшчэ занадта маленькі, каб задумвацца над гэтым. Цацачныя самалёцікі — вось твой інтарэс! Ты трызніў і трызніш небам! Хто ведае... Можа, некалі…

Першыя ад сцэны два шэрагі паважаная цётачка ў вышыванцы, якая, верагодна, тут за старэйшую, настойліва просіць не займаць. Сонца вынырвае з-за адзіночных цёмных аблокаў і да астатку залівае гэтую імправізаваную залу праз бакавыя вокны, завешаныя танюткімі фіранкамі.

Сонца напаўняе памяшканне, быццам дабраслаўляе на дзейства і гледачоў, і акцёраў, якія выступацьме перад імі.

Гімн Украіны, калі многія ва ўздыме кладуць руку на сэрца, трывае хвіліну маўчання. Ты раптам заўважаеш, што тоўстая цётачка побач размазвае кулаком слёзы і шморгае носам, бы маленькая, — усё навокал адгэтуль стане тваёй нябачнай спадчынай для новага жыцця. Табе быць сапраўдным героем Украіны, годным яе сынам-лётчыкам-героем! Ты яшчэ нічога пра гэта не ведаеш. Нават не здагадваешся пра тое, што і хвіліна маўчання, і верш на ўкраінскай, які прыгожая цётка чытае са сцэны разам са сваёй дачкой амаль твайго веку (яны абедзве ў чароўных вышытых сукенках, упрыгожаных чырвонымі макамі памяці і крыві, што запяклася на сэрцы), і песні невядомага аматарскага калектыву пад баян — усё гэта вызначыць тваю свядомасць, шлях, жыццёвы выбар. Ты ўжо адметны, ужо не той хлопчык, што ганяў у двары мяч і прыслухоўваўся да п’яных суседскіх мацюкоў дзядзькоў, якія «адпачывалі» пасля змены, таму што сёння ты не толькі пачуў, але і адчуў, што ты — украінец!

— *«О, мамо рі-і-ідна, ти мене не жди-и-и! Мені в наш ді-і-ім ніколи не прийти-и-и! З мойого се-е-ерця мальва проросла і кров’ю зацвіла-а-а!»*

На другім куплеце песні, якую ты чуў тут, у санаторыі, ужо не аднойчы, — яна ліецца з адчыненых вокнаў «крымскага» корпуса, чуецца з тэлевізара замест мульцікаў і нават гучыць з тэлефонаў многіх тут, — дзверы распахваюцца, і ў сталовую заходзяць гледачы першых двух шэрагаў. Гэта мужчыны ў камуфляжы (здаравенныя, як табе здаецца) — хто на мыліцах, хто з рукой на перавязі, хто з павязкай на галаве. Іх бледныя і знясіленыя твары выглядаюць бяскроўнымі маскамі над цёмна-аліўкавымі формамі, некаторых з іх падтрымліваюць пад рукі валанцёры.

— Гэта ж нашы! З АТО…

— Бедненькія... бачыце, як іх…

— Дый і так добра, што жывыя-здаровыя! А колькіх ужо пахавалі…

— Можа, ужо і не будуць ваяваць?.. Пакуль адужаюць — вайна скончыцца?

— Хай бы так і было!

— Ой-йой-йой!.. Да чаго дажыліся!

Песня перарвалася. Дзяўчына, якая выконвала яе, няёмка перамінаецца ля мікрафона. Фанаграму выключылі. Пад трывожнае перашэптванне прысутных усе вайскоўцы ўрэшце рассаджваюцца па вольных крэслах. Зноў гучаць «Мальвы» з яшчэ большым узвышэннем і пачуццём, бо прысутнічаюць тыя, пра каго песня пісалася і хто, нягледзячы на лютасць і нянавісць ворагаў, што палявалі за іх жыццём, ацалелі.

Яшчэ гучаць вершы і песні, прамаўляюцца пажаданні, прызывы, заклікі. Потым усіх фатаграфуюць (ці ўсе фатаграфуюцца), вядома, тых, хто жадае. Вы з мамай не спяшаецеся да выхаду. Дый куды вам спяшацца? Вас ніхто не чакае ў маленькім двухмесным нумары. Ужо на самым выхадзе вы раптам сутыкаецеся ў дзвярах з маладым хлопцам-вайскоўцам. Яго бела-бялюткая здалёку, забінтаваная да калена нага зблізку апынаецца пакрытай жаўтлява -шэрым нясвежым гіпсам. Ён не паспеў выйсці за дзверы, як на ім павісла маленькая і худзенькая, зусім яшчэ не старая жанчына. Салдацік ледзь утрымлівае раўнавагу на мыліцах, а жанчына ўсё не расціскае абдымкаў. Яе быццам скалынае нябачная сіла, душыць усхліпамі, праз якія са страшным свістам прарываюцца адзіночныя словы:

— Сы-ы-ыначка!.. Жы-ы-вы-ы-ы!.. Жы-ы-вы-ы!!!

Ты ўражана прыціскаешся да мамы, якая ў правай руцэ сціскае тэлефон

